



# Рэгіянальная газета

11 кастрычніка 2013 года

№ 41 (963)

Тэлетыдзень

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**Забаранілі прадаць тону прадуктаў. Гандляры выплацілі штафаў на 116 мільёнаў рублёў.**

3-я старонка



**Сыты галоднаму не спачувае. Справы на прадпрыемстве Таварыства інвалідаў па зроку.**

5-я старонка



**навіны рэгіёна**



## У Вілейцы – новы першы намеснік старшыні райвыканкама

**ВІЛЕЙКА.** Першым намеснікам старшыні райвыканкама – начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі прызначаны **Ігар Шавялёў**. Да апошняга часу ён узначальваў Вілейскую раённую прафсаюзную арганізацыю прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу. Мае вышэйшую адукацыю, узрост – 45 год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Мядзяльчане назіраюць за птушкамі

**МЯДЗЕЛ.** Мядзяльчане ўдзельнічалі ў Еўрапейскіх восеньскіх днях назіранняў за птушкамі. У райцэнтры 5 кастрычніка была арганізаваная назіральная пляцоўка на беразе возера Мястра. – Прыйшлі сюды разам са школьнікамі: у нас была падзорная труба, біноклі, буклеты-вызначальнікі птушак. Назіралі за птушкамі – у першую чаргу за вадаплаўнымі, вызначалі іх віды, – паведаміла старшыня Мядзельскага раённага аддзялення грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" **Алена Паршута**. – Да нас таксама далучаліся мядзяльчане, якія праходзілі міма. Паўдзельнічалі ў назіраннях каля 50 чалавек. Удалося ўбачыць больш за 15 відаў птушак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Замянілі балон – успыхнуў пажар

**АСТРАВЕЦ.** 7 кастрычніка астравецкія выратавальнікі прынялі паведамленне аб пажары жылога дома ў вёсцы Ліпкі. Дах да прыезду байцоў МНС быў ахоплены полымем. У выніку пажару ён быў знішчаны, а таксама пашкоджаныя перакрыцце і сцены. Пацярпелых людзей няма. Гаспадыня дома, 86-гадовая пенсіянерка, вырашыла прыгатаваць сабе абед і накіравалася ў веранду, дзе знаходзілася газавая пліта. Верагодна, была ўцечка газу, таму, як толькі яна запаліла запалку, адбылася ўспышка. Жанчына ў паніцы выбегла на вуліцу і стала клікаць на дапамогу. Яе крыкі пачуў аднавясковец, адвёў на бяспечную адлегласць, а сам выклікаў службу "101". Са слоў самой гаспадыні, напярэдадні ў доме мянялі газавы балон сваімі сіламі, без удзелу спецыялістаў газавай службы.

**Паводле mchs.gov.by**



# "Тысячнае не тысячнае – абы здаровае было"

## 1000-е немаўля ў Маладзечне нарадзілася ў дзень нараджэння прабабулі




Маладая мама Ганна Ешчанка разам з сынам Цімафеем.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ганна і Віктар Ешчанкі пазнаёміліся чатыры гады таму.**

Ён напісаў у інтэрнэтчаце, яна адказала, і пайшло-паехала…

Віктар сам з Мазыра. Да Ганны ў Маладзечна пераехаў недзе паўгода таму, і пара хутка згуляла вяселле. А 30 верасня ў маладых нарадзіўся сын Цімафей.

– Хацелася, каб імя было незвычайным, – дзеліцца Ганна. – Муж, праўда, не быў у захапленні, але мы дамовіліся, што я называю хлопчыка, ён – дзяўчынку.

### Радзільня

Ад маладзечанскай радзільні ў Ганны засталіся самыя цёплыя ўражанні:

– Ведаеце, страшна было туды ісці. Начыталася ў інтэрнэце розных жахаў, вось і чакала самага горшага. У дадатак, не збіралася класціся так рана. Справа ў тым, што нарадзіла павінна была 28 кастрычніка. А атрымалася амаль на месяц раней. Усё так раптоўна здарылася! Але дактары ды медсёстры ставіліся вельмі добра, проста не перадаць словамі.

### Рэакцыя сваякоў

– Тое, што нарадзіўся Цімафей, – радасць для ўсіх, – працягвае маладая маці. – Аднак самы галоўны падарунак атрымаўся маёй бабулі. Нарадзіла ў яе дзень нараджэння. Збіралася ісці на свята, намалявалася, апранулася, а тут у радзільню паклалі!

Сваякі ўвогуле ўсе ў шоку былі. Мама ў паніцы: як так? Чаго яна так рана нараджае? Перажывала вельмі моцна. Яна якраз тады на працы была, а тата з братам і мужам на дачы. Дык брат мой званіў маме і супакойваў. Адна жонка брата была спакойная. Казала: "Ну нараджаць яна паехала, што ж з таго? Я адвезла яе ўжо".

### 1000-е немаўля

З 1000-м увогуле дзіўна атрымалася, – прыгадвае Ганна. – Патэлефанаваў муж, пачаў нешта казаць пра гэта, а мне не да таго, бо ўсё баліць, дзіця яшчэ не прынеслі. Вось я і не зразумела спачатку, што да чаго. Вечарам, калі ўжо прынеслі Цімафея, я ачухалася і спытала ў мужа, што ён там казаў пра 1000-е дзіця. Тады ўсё стала зразумела.

Маладыя маці, якія былі разам са мной у палаце, атрымаўшы пасведчанні аб нараджэнні дзяцей, здзіўляліся: "Так цікава, у пасведчанні маё дзіця 996-е. Некаму ж пашанцавала быць 1000-м!" І вось ляжу я і кажу: "Ну нам пашанцавала быць тысячнымі". І такое маўчанне адразу. Пасля казалі: "Трэба запомніць, што мы ляжалі з тысячным немаўлём". Хаця ведаеце, тысячнае не тысячнае, галоўнае, каб здаровае было.

### Першы раз трымае на руках

– Спачатку не верыла, што гэта маё дзіця. Прывыкла, што яно ў маім жываце. А тут на руках, яго можна памацаць, пацiскаць. Потым пачалі прачынаца мацярынскія пачуцці. Яго забіраюць на якіянебудзь працэдуры, а ты думаеш: чаму яго забралі? Гэта маё! Хутчэй бы вярнулі… А чаму так доўга?

### Як выпісвалі з радзільні

– Вельмі хацелася, каб хутчэй выпісалі дамоў, – узгадвае маладая маці. – Як бы добра ні ставіліся ў бальніцы, дом ёсць дом. І сцены дамашнія лечаць.

Перад самай выпіскай у бальніцы ўсе падскоквалі, пыталіся: "Ну калі ўжо цябе выпішуць?" Са сталоўкі падышла жанчына і кажа: "У мяне там цэлы натоўп. Памыць трэба, а яны сыходзіць не хочуць. Тысячнае дзіця выпісваць будуць, паглядзець жа трэба. Можа, цябе могуць хутчэй забраць?"

Хутка мяне і забралі. Сустрэў муж разам з братам і яго жонкай з кветкамі, з мясцовым тэлебачаннем. Прывезлі дамоў, а там ужо ўсё падрыхтавана: ложачак, шарыкі…

**Настасся РОЎДА.**

14 КАСТРЫЧНІКА – ДЗЕНЬ МАЦІ

# Сёлета нарадзілася на 140 дзетак больш

**МАЛАДЗЕЧНА. Радзільны дом – гэта першае месца ў жыцці амаль кожнага чалавека.**

Напярэдадні Дня Маці, мы завіталі сюды, каб пагаварыць з людзьмі, якія кожны дзень дапамагаюць здзейсніцца дзіву, якое называецца нараджэнне чалавека.

Нашы пытанні загадчыцы радзільнага дома **Таццяне Гісіч**.

**– Што значыць быць мамай?**

– Стан мамы можна апісаць як пяшчота, хваляванне, клопат, слёзы радасці, пачуццё любові. Быць маці – гэта асаблівы дар. Жанчына да родаў і пасля – два розныя чалавекі. Мацярынства робіць дабрэй.

**– Колькі адразу мам можа прыняць маладзечанскі раддом?**

– У пасляродавым аддзяленні могуць знаходзіцца 40 мам. Калі колькасць іх большая, то мы, канешне, рыхтуемся да гэтага, прапануем месцы ў раддоме ў Вілейцы.

**– А ў якія месяцы нараджаецца большая колькасць дзяцей?**

– Самыя багатыя месяцы на дзетак былі ў нас у студзені, красавіку, чэрвені. У гэтыя месяцы нараджалася прыкладна на 40 дзетак больш, чым у такія ж месяцы летась. Ужо сёння ў нас нарадзілася на 140 дзяцей больш, чым у мінулым годзе. Прычым з іх – 11 пар двайнятак.



Фота Наталлі ТУР.

Насупраць маладзечанскай радзільні шмат надпісаў з падзякай.

**– Што вы параіце жанчынам, якія вырашылі стаць маці?**

– У нашай жаночай кансультацыі кваліфікаваныя спецыялісты адкажуць на ўсе пытанні, параяць, якія аналізы трэба здаць.

Для цяжарных жанчын у нас працуе школа будучых бацькоў. З першых месяцаў цяжарнасці нашы спецыялісты будуць побач, раскажуць, як падрыхтавацца да родаў, як паводзіць сябе на родах, што павінен ведаць будучы бацька.

**– Ці многа пар, якія жадаюць нараджаць сумесна?**

– Ведаеце, не. За гэты год у нас было толькі 10 пар, якія нараджалі дзіця ў сямейнай радзале. Але мы раім маладым мамам нараджаць дзяцей не з мужамі, а з мамамі, бабулямі, сёстрамі, адным словам з людзьмі, якія ведаюць, што такое працэс родаў.

**– Здараліся выпадкі, каб муж губляў прытомнасць ?**

– Не, каб так, што даводзілася б прыводзіць маладога бацьку ў пачуццё, то не. Гэта добра, калі родны чалавек прысутнічае на родах, гладзіць па галоўцы ці па жывоціку. У асноўным, шчасце татаў мы бачым тады, калі жанчына выпісваецца з раддома. Тут і шарыкі выпускаюць у паветра, і надпісы пад вокнамі на асфальце пішуць, і лімузіны заказваюць, усё часцей на ўласных машынах пішуць: "Дзякуй за сына ці за дачку", тут і фатографы, і відэакамеры. Такі цуд – дзіця нарадзілася!

Гэтымі днямі **Ганна Раманоўская** стала мамай упершыню, а для **Зоі Кананові**ч Эмануіл ужо шостае дзіця. І на маё пытанне аб тым, што для іх значыць быць мамамі, Ганна адказала, што быць маці – гэта самае вялікае шчасце, радасць, цуд, а Зоя адказала, што, нарадзіўшы шэсць дзяцей, яна так і не ведае адказу на гэта пытанне. Але ў адным жанчыны сышліся: сям'я, дзе адно дзіця, не зусім сям'я. І толькі тупат некалькіх пар маленькіх ножак робіць дом утульным, бацькоў – багатымі, а жыццё – шчаслівым.

**Наталля ТУР.**

## Мацярынская любоў грэе да старасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Незаменнае значэнне мае маці ў сям'і.**

Яна вучыць дзяцей дабру і любові, дае першыя ўрокі чалавечнасці, душэўнага стаўлення да людзей. Мацярынская любоў грэе да старасці.

У першую чаргу роля маці – рэакцыя на паводзіны дзяцей. Любоў і давер маці – гэта падмурак для развіцця ўпэўненасці і правільнай самаацэнкі, яны вызначаюць разумовае і эмацыйнае развіццё хлопчыка ці дзяўчынкі.

Мама для дзіцяці нібы люстэрка. Менавіта яна ўзор для сваіх дзяцей. Калі праяўляе павагу і цярплівасць – дзеці заўважаюць. Яна – эталон жаноцкасці як для дзяўчынак, так і для хлопчыкаў у выбары спадарожніцы. Таму мама мусіць сачыць за знешнасцю, паводзінамі.

Яшчэ адна задача – захоўваць сямейныя сувязі і традыцыі.

Жанчына – гаспадыня ў доме. Сацыёлагі падлічылі, што сярэдняя нагрузка дома ў жанчын удвая большая, чым у мужчын, а агульная працоўная нагрузка на 15-20% большая. Жанчына мае двайны рабочы дзень – на працы і дома. Адсюльператамленне, нервознасць. А гэта адмоўна адбіваецца на адносінах у сям'і і выхаванні дзяцей.

Большасці сучасных жанчын не хапае часу, каб быць добрай мамай, каб падтрымліваць і рацыянальна кантраляваць дзеянні дзяцей.

Першапачаткова ў жанчыне закладзены клопат пра дамашні ачаг. Мама павінна быць шчодрай на безумоўную любоў да дзіцяці. Тады нараджаецца і любоў дзіцяці. І лепшы падарунак для любой мамы – шчаслівая і радасная сям'я.

Дзіцяці, якое спазнала бацькоўскі клопат, увагу, радасць сумесных перажыванняў, будзе прасцей стварыць сваю сям'ю.

А як усё паспець? Кожнай маме штодня патрэбны асабісты час. Дастаткова адной гадзіны на дзень, каб жанчына адчувала сябе свежай і поўнай энергіі.

Ад мамы дзеці атрымліваюць ласку, пяшчоту, а ад бацькі – мужнасць, сілу волі, уменне спаборнічаць і перамагаць. Са святам, мілыя Мамы!

**Алена КАМІСАРУК, псіхолаг.**

## Што значыць быць мамай?

**МЯДЗЕЛ. Адказвае Таццяна Хіхіч – выхавальніца старэйшай групы ясляў-сада №2 Мядзела, мае дарослага сына.**

– Быць мамай – гэта быць самым блізкім і дарагім для дзіцяці чалавекам, заўсёды разумець яго, пахваліць у патрэбную хвіліну, адчуць тое, што ён адчувае. І несці адказнасць за яго.

**– А што значыць быць другой мамай для сваіх выхаванцаў?**

– Здолець у садку замяніць маму, пераняць ад яе эстафету, адчуць яго так, як адчувае мама. На бацькоўскіх сходах так кажу: "Мы павінны жыць у садку адной дружнай сям'ёй – і тады ў нас усё атрымаецца".

Выпадковыя людзі сыходзяць з нашай прафесіі. Застаюцца толькі тыя, якія ўспрымаюць выхаванцаў як сваіх дзяцей: любяць, вераць у іх, ганарацца іх поспехамі і разам з імі перажываюць з-за няўдач. Так як родныя мамы даверылі нам самае дарагое, што у іх ёсць, – сваіх дзяцей, то мы павінны апраўдаць іх давер.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АПЫТАНКА ПЕРШАКЛАСНІКАЎ У МАЛАДЗЕЧНЕ

## Хто такая мама?

**Ангеліна:**



– Мама – гэта вельмі-вельмі-вельмі родны чалавек. Яна заўсёды побач. А яшчэ з мамай можна гуляць у шашкі.

**Арцём:**



– Мама – гэта самы разумны чалавек на свеце. З мамай можна схадзіць на айкідо і пагуляць у камп'ютар.

**Антон:**



– Мама – гэта той чалавек, які мяне любіць больш за ўсіх. Праўда, бывае, што сварыцца на мяне. Тады я гавару: "Прабач мне". І яна больш не злуецца. А яшчэ з мамай можна хадзіць па гасцях.

**Эвеліна:**



– Родны чалавек. Сапраўдная мама заўсёды добра корміць сваіх дзяцей. Ёй прыемна дарыць падарункі і маляваць малюнкі.

**Саша:**



– Маму трэба любіць. З ёй заўсёды весела і цікава. З маёй мамай мы любім хадзіць у парк, карміць птушак. А ў мячык яна са мной чамусьці гуляць не любіць.

**Насця:**



– Мама ласкавая, добрая, прыгожая. Я маме дапамагаю даглядаць малодшага брацiка Колю. А яшчэ вару есці, пакуль мама выцірае пыл.

**Герман:**



– Мама павінна быць добрай і ласкавай. Яна ніколі не пакрыўдзіць дзяцей.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

■ ЦЭНТР ГІГІЕНЫ І ЭПІДЭМІЯЛОГІІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Забаранілі прадаць тону прадуктаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Гандлёвыя аб'екты па рэалізацыі прадуктаў харчавання маюць асаблівую эпідэмічную значнасць.**

Сёлета за дзевяць месяцаў падчас праверак абследавалі 528 аб'ектаў гандлю. Па выніках праверак склалі 158 пратаколаў аб адміністрацыйным парушэнні, вынеслі 158 штрафаў на агульную суму 116 мільёнаў 200 тысяч рублёў.

На 53 аб'ектах вытворчага гандлю, грамадскага харчавання прадавалі небяспечныя ў эпідэміялагічных адносінах тавары без дакументаў, якія спраўджваюць якасць і бяспеку. На 36 парушалі тэмпературны рэжым і ўмовы захоўвання харчовай сыравіны і прадуктаў.

На трох адзначылі нездавальняючы санітарны стан памяшканняў, гандлёвага і тэхналагічнага абсталявання. У адным выпадку заўважылі несвоечасовае праходжанне медыцынскіх аглядаў і гігіенічнага навучання работнікаў.

На 176 аб'ектах адзначылі іншыя парушэнні: не выконвалі правілы таварнага суседства пры захоўванні сырой і гатовай прадукцыі, выкладвалі тавар у ахаладжальныя вітрыны, не выкарыстоўваючы спецыяльныя латкі ці падносы. Часам тавар ляжаў проста на падлозе, без падтаварнікаў, стэлажоў, а прадаўцы не мелі санітарнага адзення.

### Закрылі пяць аб'ектаў гандлю

Па выніках праверак падрыхтавалі 94 прадпісанні аб забароне рэалізацыі, паводле якіх забаранілі прадаць 1 тону 114 кілаграмаў прадуктаў. Сярод іх у некаторых скончыўся тэрмін прыдатнасці, у іншых не было этыкетак, маркіровачных ярлыкоў ці лістоў-укладышаў, без дакументаў, якія сцвердзілі б якасць і бяспеку.

Вынеслі пяць прадпісанняў аб спыненні дзейнасці, 132 прадпісанні і рэкамендацыі аб ліквідацыі парушэнняў.

Асноўныя парушэнні, якія цягнуць адміністрацыйнае спагнанне: рэалізацыя тавару са скончаным тэрмінам прыдатнасці, парушэнні патрабаванняў па маркіроўцы і ўпакоўцы, няма дакументаў, якія пацвердзяць якасць і бяспеку тавару, тэмпературныя рэжымы не адпавядаюць норме, якасна не прыбіраюць абсталяванне і гандлёвую залу.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Нармальныя бананы – 13 500. А якія бананы за 5 000 рублёў? На маладзечанскім рынку.**

На многіх прадпрыемствах гандлю пасля планавых праверак зноў знаходзілі такія ж самыя парушэнні.

Многія загадчыцы крамаў не кантралююць, ці выконваюць падначаленыя санітарныя патрабаванні. З-за гэтых парушэнняў праз прадукты могуць узнікнуць масавыя захворванні.

Шаноўныя пакупнікі, калі вы заўважылі парушэнні падчас продажу прадуктаў, звяртайцеся ў гэты гандлёвы аб'ект, пакажыце чэк і зрабіце запіс у Кнізе заўваг і прапаноў.

**Таццяна КУГАРА,**
**доктар-гігіеніст, загадчыца аддзялення гігіены харчавання Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

| Курсы валют НБ РБ | 3.10 | 10.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 110,00 | **9 150,00** |
| Еўра | 12 310,00 | **12 380,00** |
| Злоты | 2 921,37 | **2 947,24** |
| Літ | 3 570,80 | **3 583,81** |
| Расійскі рубель | 282,00 | **282,50** |
| Грыўня | 1 111,65 | **1 117,79** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9110/9180 | **9150/9220** |
| Еўра | 12300/12420 | **12370/12500** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 2.10 | 9.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 112500 | **110450** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **45060** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 73000 | **78500** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26200 | **22950** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 23500 | **24800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **94000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9100 | **9550** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | **10000** |
| **Алей** | 16000 | **15450** |
| **Маянэз**, 200 г | 5600 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8700 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5000 | **4800** |
| **Капуста**, 1 кг | 5000 | **3500** |
| **Морква**, 1 кг | 4500 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 5000 | **4000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21000 | **17000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15000 | **16500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 23000 | **25500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 10000 | **12500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 12000 | **10000** |
| **Перац**, 1 кг | 9500 | **7000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 23000 | **21000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **10500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 6000 | **7000** |
| **Грушы**, 1 кг | 12000 | **13500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 30000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **20000** |
| **Бульба**, 1 кг | 3000 | **3500** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

■ ІНВЕСТЫЦЫІ

# Скандал вакол Ашмянскага дражджавога

**Пасля праверкі здзелкі з сумніўным інвестарам папярэдзілі паглынанне прадпрыемства**

**АШМЯНЫ. Сталічная міліцыя спыніла спробу незаконнай перадачы Ашмянскага дражджавога завода замежным інвестарам і атрымала падзяку ад дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства "Дражджавы камбінат", у склад якога ўваходзяць Ашмянскі і Мінскі заводы.**

Пра гэта паведамляе прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкама. Аднак інвестары не пакідаюць надзеі рэалізаваць гэты праект на тэрыторыі Гродзенскай вобласці, але без удзелу кіраўніцтва Мінскага дражджавога камбіната.

Сумеснае прадпрыемства "Біякомплекс "Ашмянскі" па выпуску дражджавога экстракту стварылі ў пачатку гэтага года грамадзянін Расіі Сяргей Ураза, аўстрыйская кампанія "Tatrai GmbH" і ААТ "Дражджавы камбінат".

Новы праект планаваўся запусціць ужо ў канцы гэтага года. Беларускі бок абавязаўся ўнесці ў статутны фонд новага прадпрыемства маёмасць Ашмянскага дражджавога завода. Замежныя інвестары – па 2,9 мільёна еўра.

У лютым праект па перапрафіляванні Ашмянскага дражджавога завода ўхваліў савет дзяржаўнага канцэрна "Белдзяржхарчпрам". Аднак неўзабаве пачаліся спрэчкі вакол укладанняў беларускага боку. Адны спецыялісты ацанілі прадпрыемства ў 1 мільён 113 тысяч еўра. Іншыя – у некалькі разоў менш.

Пасля гэтага сталічныя аператыўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі вырашылі праверыць законнасць здзелкі.

Як гаворыцца ў паведамленні ГУУС Мінгарвыканкама, высветлілася, што замежныя партнёры толькі юрыдычна абавязаліся ўкласці грошы ў прадпрыемства. На самой справе ў іх было два гады на выкананне абяцанняў. У дадатак інвестары замест грошай сталі перадаваць маёмасць.

Акрамя гэтага, знайшлі парушэнні пры афармленні ўстаноўчых дакументаў і размеркаванні доляў у новым прадпрыемстве. "Дражджавому камбінату" аддавалі ўсяго 18% акцый, а гэта значыць, беларускі бок не меў права прымаць рашэнні ў кіраванні сумесным закрытым акцыянерным таварыствам.

"У выніку вельмі сумніўным інвестарам у стварэнні "Біякомплексу "Ашмянскі" было адмоўлена, і Ашмянскі дражджавы завод пакінулі ў складзе камбіната", – гаворыцца ў паведамленні.

Неўзабаве пасля гэтага гендырэктар "Дражджавога камбіната" адаслаў падзяку аператыўнікам АБЭЗ, якія праводзілі праверку і "не дапусцілі незаконнага паглынання айчыннага прадпрыемства замежным".

У "Белдзяржхарчпраме" адмовіліся каментаваць рашэнне сталічнага АБЭЗ. Разам з тым патлумачылі, што інвестары маюць намер ажыццявіць гэты праект, падпісаўшы інвестдагавор з Гродзенскім аблвыканкамам.

Мінскі дражджавы камбінат перанясуць у адзін з гарадоў-спадарожнікаў. Мяркуецца, што новы дражджавы завод будзе пабудаваны ў Слуцку сумесна з нямецкай кампаніяй "Уніферм".

Раней планавалася, што яго ўзвядзенне завершыцца да канца 2013 года. Аднак цяпер у "Белдзяржхарчпраме" спадзяюцца, што сёлета будаўніцтва толькі пачнецца. На ажыццяўленне праекта выдзяляць інвестыцый не менш за 30 мільёнаў еўра.

**Паводле Tut.by.**

СЛУЖБА 101

# Не паспеў выратаваць бацьку з агню




Дом ў вёсцы Тракенікі-1 Астравецкага раёна, у якім адбыўся пажар.

**АСТРАВЕЦ. Трагедыя адбылася 7 кастрычніка ў вёсцы Тракенікі-1 Астравецкага раёна.**

У службу выратавання патэлефанавала жыхарка вёскі. Жанчына ўбачыла, як з-пад даху жылога дома выбіваецца дым. Аднавяскоўцы спачатку паспрабавалі ўласнымі сіламі справіцца з полымем і ўвайсці ўнутр, але не змаглі гэтага зрабіць.

Мясцовыя ведалі, што ў доме знаходзіцца 46-гадовы гаспадар, які меў праблемы з сэрцам. Пра пажар даведаўся сын гаспадара, які жыве ў гэтай жа вёсцы. Малады чалавек кінуўся ў дом і вынес бацьку на руках, але той ужо не падаваў прыкмет жыцця. Мужчына загінуў.

У выніку пажару знішчаны дах, перакрыцці, маёмасць, пашкоджаныя сцены. Прычына пажару высвятляецца.

**Паводле mchs.gov.by.**




У доме быў 46-гадовы гаспадар, які меў праблемы з сэрцам.

# Абагравальнік стаў прычынай смерці

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 кастрычніка на пажары ў Маладзечне загінуў 79-гадовы мужчына.**

Здарэнне адбылося на вуліцы Міру. Інспектар дзяржаўнага пажарнага нагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Сяргей Палітыка** паведаміў, што пажар адбыўся а 18 гадзіне вечара. Ратавальнікі, якія прыбылі на месца здарэння, знайшлі ў адным з пакояў цела гаспадара кватэры.

Са слоў суседзяў, мужчына не ўжываў спіртныя напоі, не курыў, жыў у кватэры адзін, напярэдадні дзеці забралі яго жонку да сябе. Хутчэй за ўсё, пажар здарыўся з-за абагравальніка, але дакладная прычына трагедыі будзе вядома пазней.

## Згарэў дом

**ВАЛОЖЫН. Пажар адбыўся ў вёсцы Леснікі Дорскага сельсавета 29 верасня.**

– Па папярэдняй версіі, гаспадыня дома ў гэты вечар паліла ў печы. Праз неасцярожнае абыходжанне з пячным абсталяваннем адбылося ўзгаранне.

Агонь знішчыў дах, пашкодзіў столевыя перакрыцці, драўляны дом выгараў знутры. Падчас пажару ніхто не пацярпеў, – паведаміў камандзір аддзялення Валожынскага РАНС **Міхаіл Таўгень.**

## Згарэла лазня ў Даўгінаве

**ВІЛЕЙКА. Каля гадзіны ночы 6 кастрычніка вілейскім выратавальнікам паступіла інфармацыя пра тое, што гарыць лазня ў мясцэчку Даўгінава.**

Пра гэта паведамілі суседзі.

Лазня належыць мясцоваму жыхару.

– У выніку пажару знішчаны дах лазні, будынак выгараў знутры, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч.**

Прычына здарэння ўстанаўліваецца. Вядома толькі, што перад пажарам лазню палілі.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Нават не паспеў затармазіць

**СМАРГОНЬ. У суботу каля 9 гадзін вечара мікрааўтобус "Фольксваген" каля горада збіў чалавека.**

Пешаход не быў абазначаны святлоадбівальнымі элементамі, ён ішоў па праезнай частцы ў спадарожным накірунку.

23-гадовы кіроўца вельмі позна яго заўважыў і нават не паспеў затармазіць. Ад атрыманых пашкоджанняў пешаход загінуў на месцы.

ДАІ нагадвае, што светлавы дзень памяншаецца, а многія працягваюць ігнараваць святлоадбівальныя элементы. Менавіта таму пешаходаў складана заўважыць. Часта з-за гэтага немагчыма папярэдзіць наезд.

**Паводле gaigrodno.by.**

БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫЯ!

## Два крадзяжы на рынку

**ВАЛОЖЫН. Крадзяжы грошай адбыліся 29 верасня і 3 кастрычніка.**

29 верасня ў міліцыю звярнулася жанчына, якая паведаміла, што з яе сумачкі выкралі кашалёк, у якім былі беларускія грошы, долары і дзве банкаўскія карткі. Агульная сума страты склала прыкладна 3 мільёны 500 тысяч рублёў.

Другі крадзеж адбыўся 3 кастрычніка. У прадпрымальніцы зніклі 4 мільёны рублёў. Як і ў першым выпадку, у пацярпелай скралі сумачку і кашалёк. Прычым, пусты кашалёк і сумку хутка знайшлі тут жа, на рынку. Вядзецца следства, – паведамляе намеснік начальніка Валожынскага райаддзела ўнутраных спраў **Віталь Мінкевіч.**

**Наталля ТУР.**

ПРАФЕСІІ

## Праца – супрацьстаяць злу

**МАЛАДЗЕЧНА. За дзевяць месяцаў гэтага года маладзечанскі аддзел наркакантролю і супрацьдзеяння гандлем людзьмі раскрыў 36 злачынстваў, сярод якіх 16 цяжкіх і асабліва цяжкіх.**

9 кастрычніка супрацоўнікі службы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі адзначылі сваё прафесійнае свята.

Раней барацьба з наркаманіяй была адным з накірункаў у рабоце крымінальнага вышуку. Цяпер знаходзіць нарказбытчыкаў і асоб, якія ўжываюць наркатычныя рэчывы, а таксама месцы, дзе вырабляюць, захоўваюць і здабываюць наркотыкі,– задачы аддзела па наркакантролі.

У той жа час супрацоўнікі аддзела займаюцца пытаннямі супрацьдзеяння гандлю людзьмі, працоўнай ці сэксуальнай эксплуатацыі чалавека.

Аднак найбольшая праблема ў аддзела наркакантролю і супрацьдзеяння гандлю людзьмі – незаконнае захоўванне і збыт наркотыкаў.

Прыярытэтныя накірункі ў барацьбе з наркагандлярамі – выяўленне і перакрыццё каналаў, па якіх дастаўляюць наркотыкі. Задача аддзела – стварыць надзейную заслону гандлярам "смерці".

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРСЫ

## Оперупаўнаважаны Валожынскага РАУС – лепшы ў вобласці

**ВАЛОЖЫН. Агляд-конкурс быў прымеркаваны да 95-годдзя з дня ўтварэння службы крымінальнага вышуку.**

Оперупаўнаважаны старшы лейтэнант міліцыі **Ігар Міхайлаў** стаў лепшым супрацоўнікам вобласці.

Агляд-конкурс уключаў у сябе агульную фізічную, агнявую і іншыя віды прафесійнай падрыхтоўкі.

– Трэцяга кастрычніка ў Мінску адбыўся рэспубліканскі этап конкурсу. Ігар Міхайлаў там заваяваў бронзу, за што будзе ўзнагароджаны міністрам, – гаворыць намеснік начальніка Валожынскага райаддзела ўнутраных спраў **Віталь Мінкевіч.**

**Наталля ТУР.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ ІНФАРМУЕ

## Дапамажыце адшукаць машыну за ўзнагароджанне

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па частцы 3 артыкула 205 (крадзеж).**

16 верасня днём з 12.01 да 12.07 невядомы нявызначаным спосабам скраў аўтамабіль "Фольксваген-Транспарцёр" 2003 года выпуску, белага колеру, рэгістрацыйны нумар 2049 АН-5. Транспарт належыць фірме ААТ "АкнаграддАўтаТранс".

Машыну прыпаркавалі на неахоўнай аўтастаянцы на тэрыторыі гандлёва-адміністрацыйнага цэнтра "Модуль" па адрасе: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143-б.

Калі вы валодаеце інфармацыяй аб месцы знаходжання машыны, калі ласка, тэрмінова паведаміце па тэлефонах: 8(0176) 77-14-46 ці 102. Ананімнасць і ўзнагароджанне гарантуем.

**Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта.**

СЛУЖБА 101

## Непатушаная цыгарэта прывяла да пажару

**СМАРГОНЬ. Ледзь было не стаў ахвярай агню жыхар хутара Войстам Смаргонскага раёна.**

58-гадовы мужчына прачнуўся ноччу 3 кастрычніка і адчуў пах дыму. Убачыў, што ўваходныя дзверы палаюць. Ён спрабаваў справіцца з агнём самастойна, але не змог. Тады пабег да суседзяў, каб тыя выклікалі службу 101. Выратавальнікам давялося змагацца з агнём, які ахапіў увесь дом.

Высветлілася, што жыў мужчына адзін, нярэдка злоўжываў спіртным. Дом быў адключаны ад электразабеспячэння за нявыплату. Як мяркуецца, прычынай узгарання стала непатушаная цыгарэта.

Больш падрабязныя абставіны здарэння высвятляць спецыялісты.

**Паводле mchs.gov.by.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Сыты галоднаму не спачувае

**МАЛАДЗЕЧНА. "Энва", адзінае прадпрыемства ў раёне, спраектаванае спецыяльна для найбольшай зручнасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі, цяпер у цяжкім становішчы.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**На прадпрыемстве "Энва" грамадскага аб'яднання Беларускага таварыства інвалідаў па зроку.**

Многія добрыя справы, вырашэння якіх дамагаюцца яго работнікі, выканаць не складана, але вынік значна аблегчыць жыццё дзясяткаў інвалідаў.

Прафкам і аддзел рэабілітацыі "Энвы" імкнуцца палепшыць умовы інвалідаў, каб яны мелі магчымасць нармальна рэабілітавацца, быць самастойнымі, абслугоўваць сябе, развіваць свае творчыя магчымасці.

Ад 15 кастрычніка прадпрыемства "Энва" грамадскага аб'яднання Беларускага таварыства інвалідаў па зроку распачынае месячнік "Чалавек з белым кійком". У межах яго штогод вядзецца актыўная работа, каб прыцягнуць увагу кіраўніцтва раёна, грамадскіх аб'яднанняў, гараджан да задач і праблем інвалідаў па зроку.

### Многія просьбы каштуюць танна

Традыцыйна кіраўніцтва прафкама праводзіць апытанне сярод работнікаў і збірае прапановы па арганізацыі безбар'ернага асяроддзя. Звычайна іх збіраецца 12-20. Прапановы накіроўваюцца адказным службовым асобам, яны іх разглядаюць, а пасля разам з калектывам "Энвы" абмяркоўваюць іх вырашэнне.

– Не ўсе нашы прапановы, якія патрабуюць вырашэння, затратныя, – падкрэслівае старшыня прафкама, начальнік аддзела па рэабілітацыйнай рабоце **Іван Радвіловіч**. – Прытым, што іх выкананне значна аблегчыць жыццё невідушчым.

Нягледзячы на тое, што людзі з абмежаванымі магчымасцямі з году ў год звяртаюць увагу на нязручнасці, Маладзечна пакуль не стала зручным і дружалюбным для інвалідаў.

**У "Энве" працуе 285 інваліды, сярод якіх 173 маюць групу па зроку. Працуюць некаторыя работнікі, якія прыехалі з Мядзела і Валожына.**

У парку, на вуліцах, у грамадскіх памяшканнях першую і апошнюю прыступку неабходна пазначаць кантрасным колерам. Без гэтых пазнак чалавек са слабым зрокам спатыкаецца і часта падае. Такіх пазнак няма ў парку імя Перамогі. Часта прыступкі нераўнамернай вышыні, нераўнамерна размешчаныя. У тым жа парку ў некаторых месцах спачатку адна прыступка, потым адразу дзве.

Ганкі многіх устаноў разбураныя.

– Каля "Спадарожніка" зрабілі новую стаянку, цяпер такая вузкая дарожка, прычым яе напалову займаюць бамперы, – дадае інструктар па сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі **Мікалай Несцер**. – Там усім небяспечна хадзіць, не тое што інвалідам.

Па вуліцы Драздовіча, каля інтэрната, засталося паглыбленне. Па вуліцы Маркава вядуць працы, знялі ўсе арыенціры для невідушчых і невядома, ці паставяць іх назад. Вуліца Вольная ўся ў ямінах.

Некаторых інвалідаў па зроку пасялілі ў 11-м мікрараёне, але новая частка горада апынулася неадаптаванай для тых, хто мае абмежаваныя магчымасці.

**Атрымліваецца, што навабуды паўстаюць, але дзяржаўныя структуры пакуль не гатовыя ў поўнай меры ўлічваць праграмы па безбар'ерным асяроддзі.**

Спраўна выконваюць хіба толькі просьбы аб гукавых святлафорах. Практычна ўсе заўвагі ўлічылі і ўладкавалі неабходныя пераходы гукавым сігналам.

Да "Дажынак" каля "Энвы" знялі ўчастак агароджы і не замянілі. Многія заўвагі ад калектыву тычацца пытанняў бяспекі. Яны могуць падаць дробязямі для чалавека з нармальным зрокам.

Пакуль не прызначылі дату, калі адбудзецца сустрэча калектыву "Энвы" і кіраўніцтва Маладзечанскага раёна.

### Любая няроўнасць збівае: дзе я?

– Нашы інваліды не могуць нармальна пагуляць, напрыклад, у парку, – тлумачыць Іван Радвіловіч. – А невідушчы чалавек мае надзею толькі на слых, адчуванне, кіёк. Любыя няроўнасці пад нагамі яго збіваюць і дэзарыентуюць. Для людзей са зрокам гэта дробныя праблемы. Сыты галоднаму не спачувае. Але да гэтай справы трэба ставіцца з адказнасцю і разуменнем. Райвыканкам спрабуе дапамагчы, напрыклад, пілавіннем для кацельні, але нявырашана яшчэ мноства вельмі важных пытанняў.

Старшыня прафкама скардзіцца, што дзяржаўныя ўстановы не ўладкоўваюць працоўныя месцы для інвалідаў, хаця па закону, калі няма медыцынскага супрацьпаказання, чалавек з абмежаванымі магчымасцямі – паўнавартасны кандыдат на вакансіі. Пры гэтым прыватнікі ахвотна прымаюць на працу людзей, якія атрымалі інваліднасць.

### "Энва" скарачае працоўны тыдзень

Прадпрыемства ад 1 лістапада да 31 снежня пераходзіць на чатырохразовы працоўны тыдзень. Прадукцыя губляе запатрабаванасць, аб'ёмы не выконваюцца, фінансавання не хапае. Усё гэта вядзе да нізкага заробку.

У той жа час прадпрыемства заахвочвае, каб работнікі вялі актыўны лад жыцця, удзельнічалі ў конкурсах і спаборніцтвах: чэмпіянаты па шашках, шахматах, брэйн-рынг.

### Зрок можа знікаць пасля прастуды

Старшыня пярвічнай вытворчай арганізацыі прадпрыемства "Энва" **Марына Саўчук** распавяла, што інваліднасць па зроку атрымліваюць па розных прычынах: хтосьці невідушчы ад нараджэння, у некага на зроку адбіўся стрэс ці траўма, а адна 35-гадовая жанчына пачала губляць зрок як ускладненне пасля вострага рэспіраторнага захворвання.

Рэабілітацыя праходзіць складана таму, што прыстасаванні, якія могуць аблегчыць быт невідушчага, каштуюць дорага. Некаторыя рэчы выдаюць па чарзе. Сёлета толькі адна жанчына атрымала кіёк, аднак ён апынуўся непрадуманай канструкцыі, таму карыстацца ім нязручна.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Экскурсія па "Энве"

На прадпрыемстве прадугледжана ўсё магчымае, каб зрабіць знаходжанне ў ім як мага камфортней для невідушчага.

Кожныя дзверы маюць гукавы сігнал, які ўключаецца, калі яны адчыненыя. Так можна пазбегнуць сутыкнення, калі інвалід ідзе па калідоры, а хтосьці адчыняе дзверы.

На ўсіх пралётах першая і апошняя прыступкі пафарбаваныя ў жоўты колер.

Каб вызначыць, на які паверх падымаешся, да парэнчаў прымацавалі болцікі. Адзін – на першым паверсе, два – на другім, тры – на трэцім. Да сцен прымацавалі парэнчы, каб было зручна ісці па калідоры.

ЗРОК

## Пра здароўе вачэй трэба памятаць заўжды

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 кастрычніка адзначаецца Сусветны дзень зроку. Але пра вочы трэба клапаціцца кожны дзень, лічыць мая суразмоўца, доктар-афтальмолаг Вольга Бягун.**

**– Калі гаварыць пра тое, што зрок трэба берагчы з самага дзяцінства, то ўзнікае пытанне: як яшчэ цяжарнай жанчыне зберагчы зрок будучаму дзіцяці?**

– Ніяк. Прырода ўсё зробіць сама. Адзіная рэкамендацыя – здаровы лад жыцця для будучай мамы.

**– Ці можа мама сама зразумець, што ў дзіцяці сапсаваўся зрок?**

– У любым выпадку, ад самага нараджэння да года, мама з дзіцем назіраюцца ў спецыялістаў. Калі раптам зрок і пачне псавацца, спецыяліст сам вам пра гэта скажа. На сённяшні дзень у нашай дзіцячай паліклініцы самае сучаснае абсталяванне, так што з дыягностыкай праблем не будзе. І ўвогуле, не забывайцеся пра тое, што зрок трэба правяраць раз на год і дзецям, і дарослым.

**– Скажыце, як пазбегнуць ускладненняў са зрокам, якія могуць узнікнуць праз якое-небудзь захворванне?**

– Калі вы хварэеце, важна выконваць усе рэкамендацыі дактароў. Прызначае вам доктар лячэнне: дзве таблеткі ў дзень цягам сямі дзён, значыць, курс трэба скончыць. А то як лечацца нашы людзі? Выпіў 1-2 таблеткі, трохі стала лягчэй, і на гэтым усё лячэнне. Ад гэтага і ўскладненні. І я яшчэ не гавару пра самалячэнне. Гэта ўвогуле недапушчальна!

**– Як пазбегнуць самалячэння, калі ў паліклініцы такія чэргі? Асабліва да акуліста?**

– Згодна, але ў хуткім часе ў нас будуць працаваць інтэрны, маладыя спецыялісты. Мяркую, што праблема з вялікімі чэргамі вырашыцца.

**– З якога ўзросту можна насіць кантактныя лінзы?**

– Насуперак распаўсюджанай думцы, што лінзы можна насіць толькі з 18 год, я магу сказаць, што і з 12-13 год хадзіць у лінзах дапушчальна. У гэтым узросце многія падлеткі саромеюцца насіць акуляры, адмаўляюцца ад іх. А лінзы даюць магчымасць пастаянна карэктаваць зрок. Але мамам трэба гаварыць дзецям, што лінзы можа насіць толькі акуратны чалавек, які не будзе лазіць бруднымі пальцамі ў вочы.

**– Дайце, калі ласка, параду, як захаваць зрок тым, хто шмат часу праводзіць за камп'ютарам?**

– Па-першае, без фанатызму. Пры любой магчымасці мяняйце від працы, давайце вачам адпачыць. Шмат гуляйце. Прагулкі на свежым паветры ўмацоўваюць зрок. Зараз восень, таму назапашвайцеся вітамінамі. У нашага арганізма ёсць цудоўная якасць – назапашваць карысныя рэчывы. Зімой вашы арганізм і зрок скажуць вам дзякуй!

**Наталля ТУР.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць сведкаў аварыі, у якой загінуў пасажыр

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 жніўня ў 11.15 кіроўца Г. 1975 года нараджэння за рулём аўтацягніка "КАМАЗ 55102", рэгістрацыйны знак ОВ 6446, ехаў па другаснай аўтадарозе "Чысць-Малашкі".**

На перакрыжаванні з галоўнай дарогай Чысць-Краснае, непадалёк ад Чысці, сутыкнуўся з аўтамабілем "Фольксваген-Шаран", рэгістрацыйны знак 8388 ВВ-5. У выніку дарожна-транспартнага здарэння пасажыр "Фольксвагена" ад атрыманых пашкоджанняў загінуў на месцы.

Некаторыя са сведкаў і відавочцаў аказвалі пацярпелым першую дапамогу.

Просім відавочцаў паведаміць аб сабе ў міліцыю па тэлефонах: 8(0176) 77-16-56, 102, ці ў следчае ўпраўленне па Мінскай вобласці па тэлефонах 8(017) 219-09-04, 219-09-07.

**Аддзел унутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама.**

ВЫСТАВЫ

# Драздовічу прысвячаецца

**У выставачнай зале гарадскога цэнтра культуры Глыбокага 3 кастрычніка адбылося адкрыццё выставы жывапісу мастака з Вілейкі Эдуарда Мацюшонка "Адна зямля. Язэпу Драздовічу прысвячаецца".**

Яна прымеркаваная да 125-й гадавіны з дня нараджэння гэтага мастака, скульптара, пісьменніка, археолага і педагога, які жыў у Маладзечне.

На выставе прадстаўленыя рэканструкцыі архітэктурных збудаванняў Глыбоччыны, якія адносяцца да часу жыцця Драздовіча. На многіх карцінах можна пабачыць мясціны, звязаныя з яго жыццём і творчасцю. Таксама ёсць два партрэты, у тым ліку і новая праца Эдуарда Мацюшонка – "Космас Драздовіча". Адзін з партрэтаў Драздовіча вілейскі мастак падарыў мясцоваму музею.

Дарэчы, Эдуард Мацюшонак – зямляк Драздовіча. Ён таксама нарадзіўся на Глыбоччыне.

У наступным нумары "РГ" больш падрабязна раскажа пра карціну "Космас Драздовіча" і працу над ёй.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота зафіксавана Эдуардам МАЦЮШОНКАМ.

Адзін з партрэтаў Язэпа Драздовіча аўтарства Эдуарда Мацюшонка.

## Як Драздовіч гасцяваў у Засвіры

**МЯДЗЕЛ. Прывядзём урывак з успамінаў Бярнарда Стаповіча – брата каталіцкага святара і паэта Казіміра Сваяка (сапраўднае імя – Канстанцін Стаповіч).**

У іх расказваецца пра гасцяванні Язэпа Драздовіча ў Засвіры на Мядзельшчыне, дзе ў мясцовым храме ў 20-я гады мінулага стагоддзя служыў Канстанцін Стаповіч.

"Другім даволі частым госцем у засвірскай плябаніі быў вядомы беларускі мастак і пісьменнік Язэп Драздовіч, аўтар аповесцяў "Вар'ят без вар'яцтва" і "Вялікая шышка".

З'яўляўся ён там неспадзявана і заўсёды радасна быў вітаны Кастусём. Хадзіў Драздовіч, як яго памятаю, у саматканай світцы і ў кароткім кажушку. У Засвіры вялі яны з Кастусём доўгія гутаркі, найчасцей на тэмы беларускага мастацтва, літаратуры, гісторыі, актуальных пытанняў беларускага адраджэнскага руху.

Між іншым, Драздовіч цікавіўся яшчэ археалагічнымі пытаннямі, звязанымі са Свірскай ваколіцай. Вельмі прыцягвала яго Свірская гара, пасярод мястэчка, паблізу возера. Была яна даволі высокая і рабіла ўражанне штучна насыпанага вялікага кургана. З гэтай гары рассцілаўся шырокі і прыгожы краявід на ўсю ваколіцу, на прыгожае і доўгае возера.

Драздовіч спрабаваў нават рабіць па-аматарску раскопкі ў частцы гары. Але гэта работа была не паводле яго магчымасцяў. Затое раскапаў курган-магілу паміж возерам і Засвірам. Паводле археолага У. Антановіча, курганы паходзілі з пазнейшага рымскага перыяду, гэта значыць, з часоў паміж другім і чацвёртым стагоддзямі нашай эры. Знойдзеныя ў кургане прадметы Драздовіч перадаў Беларускаму музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

У Засвіры Драздовіч пакінуў Кастусю пару абразоў сімвалічнага зместу. Добра памятаю адзін з гэтых абразоў, на якім на першым плане былі намаляваны ў агні руіны вялікага старога замка, ад якога цягнуцца смугі дыму, утвараючы ў верхняй яго частцы постаці, якія ўглядаліся ў далёкі, асветлены крышталёвы палац. Абраз гэты, у выразных і размаляваных мастаком рамах, вісеў у пакоі насупраць Кастусёвага ложка".

# "Крокі па зямлі" Віктара Суглоба

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Сіліновіча вілейскага музея праходзіць выстава мастацкай фатаграфіі Віктара Суглоба з Мінска "Крокі па зямлі".**

Творца ўжо больш за сорак год займаецца фатаграфіяй, з'яўляецца сябрам народнага фотаклуба "Мінск", творчага саюза "Фотамастацтва".

– На выставе прадстаўлена каля 40 мастацкіх фотаздымкаў. Гэта гарадскі ландшафт, краявіды, – расказала старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**. – Паколькі выстава праходзіць у Вілейцы, Віктар Суглоб не мог не прадставіць нашы краявіды: Забároддзе, Вілейскае вадасховішча. Ён вельмі часта бывае на Вілейшчыне, прымае ўдзел у фотапленэрах. Любімая яго з'ява ў прыродзе – гэта туман. Гатовы прачынацца ў чатыры гадзіны раніцы і ехаць, напрыклад, у тую ж Сосенку дзеля таго, каб сфатаграфаваць краявіды ў тумане. Таксама на выставе прадстаўлены такі новы для фатографа накірунак, як студыйны нацюрморт.

Апроч узораў мастацкай фатаграфіі, на выставе можна пабачыць частку калекцыі фотаапаратаў Віктара Суглоба. Ён сабраў больш за дзве тысячы фотаапаратаў розных часоў і краін. На працягу пяці год яны выстаўляліся ў галерэі кампаніі "Свет фота", якой кіруе Віктар Суглоб, а сёння частку гэтай калекцыі можна пабачыць у музеі гісторыі Мінска. Калекцыянер прымаў удзел у складанні каталога–класіфікатара "1200 фотаапаратаў з СССР".

На выставе ў Вілейцы прадстаўлена больш за 50 фотаапаратаў.

– Выклікаюць цікавасць фотаапараты, якія выпускаліся у Савецкім Саюзе, у тым ліку і на вілейскім заводзе "Зеніт", а таксама ЗША, Японіі, Ганконгу, – кажа Вольга Коласава. – Ёсць тут фотаапараты, якія выпускаліся спецыяльна для фотакарэспандэнтаў, а таксама шпіёнскія.

Віктар Суглоб – даўні сябар Вілейскага краязнаўчага музея. Яшчэ ў 2004 годзе тут прайшла першая яго фотавыстава. І тады ж кампанія "Свет фота" і музей правялі сумесны праект: конкурс сярод школьнікаў на лепшы фотаздымак роднай зямлі. Пераможцы атрымалі фотаапараты.

Такім чынам, супрацоўніцтва працягваецца – абяцаў творца і надалей знаёміць віляйчан са сваімі працамі.

Алесь ВЫСОЦКІ.




Фота зафіксавана Вілейскім краязнаўчым музеем.

Фотаапараты з калекцыі Віктара Суглоба.

## У Смаргоні адкрылася выстава мастака з Маладзечна

**СМАРГОНЬ. Ад трэцяга па 20 кастрычніка ў выставачнай зале гісторыка-краязнаўчага музея працуе выстава работ мастака Васіля Лазоўскага "Фарбы роднага краю".**

У 1973 годзе Васіль Міхайлавіч скончыў Мінскае мастацкае вучылішча. З 1978 года па 1994 – мастак творчай кваліфікацыі мінскага мастацка-вытворчага камбіната Саюза мастакоў Беларусі, з 1994 года і па сённяшні дзень – выкладчык дзіцячай мастацкай школы ў Маладзечне. Пастаянны ўдзельнік рэспубліканскіх мастацкіх выстаў і гісторыка-культурных мерапрыемстваў.

Карціны мастака – часцінкі рэальнага жыцця, адухоўленыя самім майстрам.

Уваход бясплатны.

Паводле museumsmorgon.by.

## Падарунак мамам ад бібліятэкі

**МАЛАДЗЕЧНА. 14 кастрычніка а 17-й гадзіне ў цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча абудзецца кансультацыя, на якую змогуць патрапіць усе мамы.**

Ужо не першы год у бібліятэцы праводзяць такое мерапрыемства. Жанчыны з пытаннямі на тэму сацыяльнай абароны атрымаюць неабходную інфармацыю ў юрыстаў і псіхолагаў.

Тэлефон для даведак 8(0176) 77-15-66.

Святлана АЛЬФЕР.

СВЯТЫ

## Ушаноўвалі настаўнікаў

**МЯДЗЕЛ. У гарадскім Доме культуры 4 кастрычніка прайшло свята, прысвечанае Дню настаўніка.**

На святочнае мерапрыемства запрасілі дэлегацыі з розных навучальных устаноў, ветэранаў педагагічнай працы.

Найлепшых педагогаў адзначылі ўзнагародамі. Так, падзякі старшыня Мядзельскага райвыканкама **Ілья Шацько** ўручыў дырэктару цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі раёна **Вользе Івановай** і настаўніцы Нарацкай СШ №2 **Рамуальдзе Кавалёвай**.

Узнагароджаных на свяце было багата. Атрымалі педагогі граматы розных узроўняў – у тым ліку Міністэрства і абласнога ўпраўлення адукацыі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

МАЮ ПРАВА

# Дэманстрацыя? Складаная справа

**Каб арганізаваць дэманстрацыю ў Беларусі, давядзецца шмат пра што паклапаціцца. Грошы спатрэбяцца ў тым ліку на тое, каб заплаціць за працу міліцыянераў, медыкаў ды прыбіральшчыц.**




Дэманстрацыя каля Нацыянальнага тэатра ў Вільні.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Па законе, каб зладзіць нейкае масавае мерапрыемства ў Беларусі, арганізатар спачатку павінен напісаць заяву на правядзенне і атрымаць дазвол. Пакуль яго няма, пра запланаваную акцыю ні ў СМІ, ні ў інтэрнэце казаць нельга.

Пастаянныя месцы для правядзення такіх збораў выбіраюць мясцовыя ўлады. Як і тыя, дзе іх ладзіць нельга. Рабіць некалькі акцый у адным месцы аднначасова закон не дазваляе, як і праводзіць дзве па адным маршруце.

Цягам года арганізатарам не можа выступаць грамадзянін, які раней прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства.

**Актывістка Наста Матчанка, якая прымала ўдзел у арганізацыі масавых мерапрыемстваў, адзначае, што самае складанае ў падрыхтоўцы – разлічыць, колькі чалавек прыйдзе, каб пазначыць гэта ў заяўцы на дазвол.**

### Тлумачыць праваабарончы цэнтр “Вясна”

“Асноўныя правы ў сферы публічнага выказвання замацаваныя ў міжнародных стандартах (Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і г.д.) і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Гэтыя правы ўключаюць свабоду слова, поглядаў, свабоду мірных сходаў, права на інфармацыю і іншыя. Пры гэтым яны не з'яўляюцца абсалютнымі і могуць абмяжоўвацца пэўнымі крытэрамі.

**Вось прыклад з Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах:**

“Артыкул 21

Прызнаецца права на мірныя сходы. Карыстанне гэтым правам не падлягае ніякім абмежаванням, акрамя тых, якія накладаюцца ў адпаведнасці з законам і якія неабходныя ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя і маральнасці насельніцтва ці абароны правоў і свабодаў іншых асоб”.

Адпаведна, абмежаванні і працэдура рэалізацыя права павінны рэгулявацца законамі краіны.

У Беларусі законы ў гэтай галіне вельмі часта празмерна абмяжоўваюць правы, што пацвярджаюць шматлікія рашэнні Камітэта па правах чалавека ААН (якія, да слова, Беларусь адмаўляецца выконваць).

Напрыклад, для правядзення масавага мерапрыемства ў Беларусі трэба падаць заяву ў мясцовы выканкам і атрымаць дазвол. Падставы для адмовы могуць быць любыя ды адвольныя, чым чыноўнікі і злоўжываюць. Суды таксама пры скаргах прымаюць іх бок, кола замкнёнае.

Ва ўсіх суседніх краінах працэдура правядзення масавага мерапрыемства куды прасцей – не прасіць дазвол на правядзенне, а паведаміць, што збіраецеся ладзіць. У Расіі можна не ўзгадняць адзінаасобны пікет, у Літве – узгадняць толькі ад 10 чалавек і таксама толькі паведамляльнай працэдурай, а не прасіць дазвол.

Пры гэтым дзяржаўныя органы самі павінны гарантаваць магчымасць правядзення акцыі. У нас жа выканаўчыя органы патрабуюць дамовы з медыцынскімі і санітарнымі ўстановамі з аплатай з боку арганізатараў, што істотна абмяжоўвае права на свабоду сходаў”.

## Не змяніць, а паказаць пазіцыю

Карэспандэнтка “РГ” **Зоя Хруцкая** аднойчы натрапіла ў Вільні на дэманстрацыю каля Нацыянальнага тэатра. Ляонас Героцерус, адзін з удзельнікаў, патлумачыў, чаму яны выйшлі на вуліцу:

– У Вільні цяпер ідзе міжнародны фестываль тэатра. На ім хочуць паказаць італьянскі спектакль, у якім будуць здзекавацца з Хрыста. Проста кажучы, у яго выяву будуць кідаць брудам. Я лічу, што гэта ўдар па рэлігіі, веры і дзяржаўным строі. Таму што Літва – хрысціянская дзяржава. Але мы не ставім сабе задачу спыніць спектакль, мы проста пратэстуем. Калі б мы хацелі, каб яго не паказалі, рабілі б штосьці іншае. А мы проста ладзім мірную дэманстрацыю, каб выказаць сваю пазіцыю.

### Арганізаваць пікет у Літве можна за тры дні

Адміністратар Беларускага дома правоў чалавека **Вольга Вайсава** арганізоўвала ў жніўні дэманстрацыю ў Вільні. Вось крокі, якія яна прайшла.

**Крок 1**

Напісала просьбу па арганізацыі масавага мерапрыемства ў віленскае самакіраванне. Яно павінна было даць дазвол на правядзенне.

**Крок 2**

Цягам трох дзён камісія прызначыла час, калі будуць разглядаць просьбу. На абмеркаванне запрасілі арганізатараў пікета.

**Крок 3**

Калі камісія высветліла ў арганізатараў, з якой нагоды і з якой мэтай ладзіцца дэманстрацыя, то дала дазвол.

У выніку Вольга атрымала дазвол роўна праз тры працоўныя дні.

Дарэчы, для парадку на мітынгу былі і чатыры паліцэйскія. Гэта было загадзя агаворана. Аднак плаціць за іх працу ці за працу прыбіральшчыц не давялося. Па законе нашай краіны, за гэта трэба дадаткова плаціць.

### Беларус на дэманстрацыі за мяжой: унутраны бар'ер

Распавядае беларуска **Іна Хоміч**:

– Аднойчы я прыехала ў Вільню, дзе з калегамі вырашылі зладзіць акцыю. Нас было нямнога, таму мы не бралі ніякіх дазволаў.

Некаторыя з нас удзельнічалі ў акцыях раней, некаторыя – упершыню. Былі сярод дэманстрантаў і ўкраінцы, для якіх сходзіць на дэманстрацыю, як для нас – у краму. Ім, як правіла, за гэта нічога не бывае, таму яны і не баяцца.

Мы, беларусы, ужо прывыклі ставіцца да дэманстрацый з асцярогай і чакаць, што падбягуць міліцыянеры ды пачнуць распытваць, што да чаго. У мяне таксама быў унутраны бар'ер: аглядалася і чакала паліцэйскіх, якія падыдуць да нас і пачнуць дапытваць.

Аднак намі ніхто не цікавіўся, акрамя рэдкіх прахожых, якія падыходзілі ды глядзелі, што напісана на плакатах. Калі разумелі, што літары не літоўскія, ішлі сабе далей. Паліцыя не падыходзіла ўвогуле, нягледзячы на тое, што мы сталі перад адміністрацыйным будынкам.

У Літве адчуваеш сябе нашмат вальней. Азіраешся, глядзіш, думаеш: ага, усё чыста, спакойна, можна не баяцца. А праз дзесяць хвілін цалкам разнявольваешся.

Важна зразумець, што ў гэтым няма нічога крымінальнага. Гэта не парушэнне правапарадку, а толькі выказванне свайго меркавання.

Калі б мы маглі выйсці з плакатамі ў Беларусі, грамадства адгукнулася б. Хтосьці з намі пагадзіўся, хтосьці – не, аднак пачалося б абмеркаванне. З гэтага пачынае фарміравацца грамадская думка.



**Настасся РОЎДА**
E-mail:
nastya.rovdo@gmail.com
Skype:
nastya_rovdo

СЯБРЫ

# Пра што гавораць у пяць гадоў


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Паліна Шпакоўская за свой малюнак атрымала падарунак ад "Рэгіянальнай газеты". Яна здзейсніла сваю задуму з'ездзіць на пікнік каля возера, есці агуркі з памідорамі, клубніцы і піць чай. А яшчэ на малюнку ёсць два матылькі: звычайны і матылёк-робат.

**МАЛАДЗЕЧНА. На прапанову намаляваць, чым будуць займацца летам, адгукнулася некалькі дзяцей. Сярод іх пяцігадовая Паліна Шпакоўская з Маладзечна атрымала падарунак у рэдакцыі "РГ" і крыху распавяла пра сябе.**

Летам Паліна ездзіла на возера, купалася разам са сваёй сяброўкай з Чысці Ульянай. Іх мамы сябруюць, і дзяўчынкі таксама любяць разам бавіць час. Паліна навучылася плаваць яшчэ год таму. У садку яна найлепш сябруе з Ксюшай, а сярод хлопчыкаў – з Данілам і Захарам. У яе ёсць і сябар Коля, з якім пазнаёмілася ў санаторыі, дзе яны разам кармілі лебедзяў.

## А ў маім калодзежы жывуць рыбкі

Дзяўчынка вельмі многа малявала, найбольш любіць каляровыя алоўкі блакітнага, чырвонага, ружовага і жоўтага колераў. Таксама рыхтавалася да школы – пачала хадзіць на падрыхтоўчыя заняткі, каб праз год без клопатаў стаць першакласніцай. Пакуль ходзіць у дзіцячы садок №28 па вуліцы Міру.

Паліна любіць глядзець мульцікі, больш за ўсё "Вінкс". З любімых казак прыгадала "Беласнежку".

Летась сама навучылася катацца на ровары, падабаецца катацца і на самакаце. Яе бацькі жывуць ва ўласным доме па вуліцы Астрожскага, таму яна шмат гуляе на вуліцы са сваёй сяброўкай Міланай.

У гаспадарцы ёсць аўчарка, а таксама два каты – Мульцік і Каця. У двары ёсць арэлі. Растуць розныя дрэвы: бярозкі, яблыні, арэхавыя. Насупраць у полі жыве заяц, а ў калодзежы – рыбкі.

## Паліна мае Сэрца акіяна

– А ў мяне ўжо выпаў першы зуб, я яго паклала ў вазачку, – дзеліцца пяцігадовая дзяўчынка надзённымі клопатамі.

– У нас ужо другі на падыходзе, – дадае мама Паліны Аляксандра.

З ежы дзяўчынка аддае перавагу фруктам: бананам, грушам і яблыкам.

Паліна мае захапленне: збірае розныя пярсцёнкі. Нядаўна на выставе ёй набылі пярсцёнак з матыльком, а самае любімае ўпрыгажэнне – блакітнае з сэрцайкам, якое яна называе Сэрца акіяна.

Дзяўчынка дапамагае маме па гаспадарцы, больш за ўсё падабаецца сервіраваць стол. Дома яна часта складвае мазаіку, гуляе з коцікамі. Любіць чытаць дзіцячую энцыклапедыю для дзяўчынак і энцыклапедыю па геаграфіі. Кажа, што дома ў яе цэлая бібліятэка і яна ладзіць экскурсіі гасцям.

Дзяўчынка расказала і пра свае мары: яна хоча браціка, маленькую лялькую, а калі вырасце, то стане доктарам, спявачкай, танцоўшчыцай ці мастачкай.

Раскажыце, чым жывуць вашы дзеці і якія незабыўныя гісторыі папслі здарыцца ў іх жыцці. Чакаем вашых допісаў на адрас **regionnews@rh.by.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



**Вітаю цябе, мой сябар! Я – бобрык Рэгіян. Зноў запрашаю цябе ў захапляльнае падарожжа па старонцы, якую падрыхтавалі спецыяльна для цябе. Летам я таксама быў на канікулах. Сёння мы павучымся лічыць.**

РАЗМАЛЁЎКА

## Палічы, якім колерам замаляваць

1 блакітны
3 сіні
4 фіялетавы
5 чырвоны
7 карычневы
8 зялёны
9 жоўты

Складзі сумы ўсіх прыкладаў. Колькі атрымалася?






# Лабірынт Знайдзі гарады ад прыкладаў

## Які прыклад да якога горада вядзе?

Здагадайся, у чым сувязь паміж пэўным прыкладам і горадам, да якога вядзе лабірынт?

Бацькам. Лабірынты вельмі карысныя для дзяцей, якія збіраюцца ў школу. Дакладна водзячы пальчыкам па лініі, яны вучацца трывала трымаць руку. Гэты навык аблегчыць ім у школе працу з ручкай.




КАЗКА

# Пра хлябок

Быў хлябок, буханка хлеба.

Ляжаў на стале і пах.

О, гэты пах. Пах больш, чым кветка, больш, чым яблычак, больш, чым грушка, больш за ўсё. Пах, як хлеб-хлябок.

Прыйшла мама. Узяла буханку хлеба, панюхала, дала панюхаць Іванку.

Пасля ўзяла нож і адрэзала Іванку малую лустачку. Большую лустачку адрэзала сабе, яшчэ большую – тату.

І ўсе елі: Іванка, мама, тата. Елі хлеб-хлябок.

Калі ж наеліся, разгаварыліся.

Найбольш гаварыў Іванка з мамай.

– З чаго гэты хлеб, мама?

– З мукі.

– А з чаго мука?

– З зярнятак, Іванка.

– А адкуль зярняткі, мама? Адкуль тыя зярняткі ўзяліся?

– З каласкоў. З жоўтых сухіх каласкоў.

– Каласкі? Адкуль каласкі?

– Выраслі на полі з гэтых самых зярнятак. Спачатку іх пасеялі, затым яны ўзышлі, трохі падраслі і сталі, як зялёная траўка. Інакш яшчэ яны называюцца збожжам. Падаў на збожжа дожджык, а сонейка грэла. Расло і расло збожжа. Вырасла, як лес. Увесь бы ты ў ім схаваўся, Іванка, ішоў бы і ішоў, а дарогі не знайшоў бы. Пасля наверсе выраслі каласкі. Красавалі і адкрасавалі. А сонейка грэла. У каласках раслі зялёныя зярняткі. Сонейка грэла, аж пякло. І збожжа пажаўцела. Пажаўцелі і каласкі, жаўцелі і зярняткі. І ўсё цвярдзелі і цвярдзелі.

Так вырасла, Іванка, на полі збожжа на хлеб.

**Францішак ТЭНЧЫК. Пераклад з чэшскай мовы Яўгеніі ЧАПЛІНСКАЙ з вёскі Літва Маладзечанскага раёна.**

ЗДАРОЎЕ І СПОРТ

# Лянота не дае быць здаровым чалавеку

**МАЛАДЗЕЧНА. Займацца спортам не толькі карысна, але і цікава. Цяпер не цяжка выбраць месца для заняткаў, галоўнае, знайсці час і жаданне.**

Усе памятаюць, што спорт – гэта добра, а шкодныя звычкі – дрэнна. Але не ўсе ведаюць, што нават спорт можа нашкодзіць.

Таму мы распыталі, як правільна весці актыўны лад жыцця, **Алега Канановіча**, інструктара-метадыста па фізкультуры ў спартыўна-забаўляльным цэнтры.

**– Куды можна пайсці ў горадзе, акрамя трэнажорнай залы?**

– У залы для фітнесу з сілавымі трэнажорамі, дыванкамі для ёгі, прыладамі для стэп-гімнастыкі, ёсць велатрэнажоры, бегавыя дарожкі, абручы і скакалкі, басейны, аквапарк, зала настольнага тэніса, зала фехтавання, лядовая арэна, більярд, боўлінг, лазні і саўны.

**– Ці многія цяпер займаюцца спортам?**

– Я б так не сказаў. Напрыклад, днём у нас амаль няма наведнікаў, толькі ўвечары людзі падцягваюцца. Але ўсе роўна хацелася б бачыць не толькі моладзь, але і пенсіянераў, цяжарных жанчын, бо для іх тут шмат карыснага і нават неабходнага.

**– З чым звязанае нежаданне займацца спортам?**

– Вы часткова самі адказалі на сваё пытанне. У многіх людзей няма жадання быць здаровымі і прыгожымі, ім проста лянота. А скаргі на дрэннае самаадчуванне, недахоп грошай і часу – гэта толькі адгаворкі. Не хапае грошай на заняткі ў трэнажорнай зале? Можна прабегчыся па парку, зрабіць зарадку дома, пакатацца на санках зімой, пакупацца ў возеры летам. А што тычыцца часу, дык і тут выйсце можна знайсці. Напрыклад, раніцай можна на паўгадзіны раней уставаць і рабіць зарадку, хадзіць на працу пешшу, рабіць перапынкі на 15 хвілін для гімнастыкі.

**– Каму спорт супрацьпаказаны?**

– Заняткі спортам, як і лекі, калі іх правільна ўжываць і ў меру, здольныя вылечыць. А перадазіроўка толькі нашкодзіць. Для таго каб не памыліцца з нагрузкай і выбарам заняткаў, ёсць інструктар, які дапаможа распрацаваць індывідуальную праграму. Таму цяжарным жанчынам, пенсіянерам і інвалідам не варта ігнараваць заняткі спортам.

**– Калі лепш рабіць зарадку і на працягу якога часу?**

– Напрыклад, раніцай наогул непажадана нагружаць арганізм. Дастаткова гімнастыкі і лёгкай размінкі для таго, каб прачнуцца і прывесці сябе ў тонус. Перад сном таксама не варта вымотваць сябе заняткамі, таму што вам будзе цяжка заснуць. Аптымальны час для зарадкі – вечар. Бо менавіта тады вы ўжо прачнуліся і нават паспелі стаміцца. А заняткі спортам дапамогуць узбадзёрыцца і скінуць калорыі, набраныя за дзень. Ведаеце, як яшчэ кажуць: "Раніцай бяжыш да інфаркту, вечарам ад яго". Што ж тычыцца працягласці, то тут усё проста – лепш 20 хвілін інтэнсіўна пазаймацца, чым гадзіну без энтузіязму пратырчаць у зале.

**– Колькі разоў на тыдзень трэба хадзіць у спартзалу, каб быць прыгожым і здаровым?**

– Дастаткова два разы на тыдзень наведваць спартзалу і хоць бы адзін раз – басейн. Калі вам дазваляе здароўе, то не адмаўляйце сабе ў задавальненні схадзіць у лазню, дзе вы не толькі адагрэецеся ад восеньскага холаду, але і дапаможаце целу аднавіцца пасля трэніровак. Фігура вам у адказ аддзячыць!

**Святлана АЛЬФЕР.**



Фота забяспечана Аляксандрам ЖОСАМ.

Падчас спаборніцтваў на аўтадроме ў Вілейцы.

ФУТБОЛ

## Выйграй білет на матч "Смаргоні"!



Фота Антона РОГАЧА.

Каманда "Смаргоні" падчас гульні з "БАТЭ".

**СМАРГОНЬ. Каб паўдзельнічаць у сумесным конкурсе "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь", вам трэба ўгадаць лік матча "Смаргонь"- "Хваля" (Пінск).**

Матч пройдзе 12 кастрычніка ў Смаргоні. Каманда "Хваля" займае шостае месца, смаргонцы – восьмае.

Ваш адказ можаце дасылаць да 12 гадзін 12 кастрычніка (субота) праз SMS на нумар 8(044) 566-26-99 ці пакіньце ў каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте", на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook. Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні".

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты".

**Аддзел інфармацыі.**

## ФК "Смаргонь" мінімальна саступіў лідару

**СМАРГОНЬ. У 23-м туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе 5 кастрычніка ФК "Смаргонь" у гасцях гуляў з лідарам першынства – камандай "Слуцк". Гаспадары абыгралі смаргонцаў – 1:0. Адзіны гол быў забіты на 56-й хвіліне.**

– Мы ведалі, як гуляе "Слуцк", таму выходзілі на поле, каб выйграць матч, – расказаў у інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by галоўны трэнер клуба "Смаргонь" **Павел Бацюта**. – Што тычыцца камандных дзеянняў, то тут згулялі годна. Адзіная праблема – гэта завяршальныя атакуючыя дзеянні, тут у нас не ўсё гладка.

**– Праблема рэалізацыі момантаў пераследуе каманду ад самага пачатку. Ці не доўгі перыяд яна вырашаецца?**

– Не, бо былі гульні, калі забівалі тры-чатыры мячы. Трэба проста далей працаваць над гэтым кампанентам.

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" выйграе 3:1 у жодзінцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У 22-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе сустракаліся дзве каманды, якія знаходзяцца ў лідзіруючай тройцы. "Маладзечна-ДЮСШ-4" 5 кастрычніка ў гасцях гуляла з камандай "Жодзіна-2007". Маладзечанцы атрымалі перамогу з лікам 3:1. Два галы ў іх забіў Майсяёнак, адзін – Харко, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.**

"Маладзечна-ДЮСШ-4" па-ранейшаму на трэцім месцы. Але гэта перамога дазволіла скараціць адставанне ад жодзінцаў, якія цяпер ідуць другімі, да трох ачкоў. Праўда, "Жодзіна-2007" правяла на дзве гульні менш.

"Забудова-2007" у гасцях прайграла "Нёману-Агра" (Стаўбцоўскі раён) з лікам 1:5. Каманда з Чысці займае 10 месца.

## Сустрэнуцца лідары

**ВІЛЕЙКА. Матчы 13 тура чэмпіянату раёна па футболе завяршыліся так: "Буддэталі" выйгралі ў "Любані" 4:1, "Шылавічы" – у "Фламетра" 2:0. Матч "Чурлёны" – "Першы Беларускі" завяршыўся з лікам 0:2.**

Адбылася перанесеная гульня "Любань" - "Шылавічы". Лік 1:3.

Матчы апошняга тура чэмпіянату пройдуць 13 кастрычніка. У адным матчы сустрэнуцца каманды, якія займаюць у турнірнай табліцы першае і другое месцы – "Першы Беларускі" і Фламетр". У другім – каманды, якія ідуць трэцімі і чацвертымі – "Чурлёны" - "Буддэталі".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЕЛАСПОРТ

# Маладзечанцы – пераможцы веларалі

**МАЛАДЗЕЧНА. 5 кастрычніка адбыліся 19 адкрытыя асабова-камандныя спаборніцтвы веларалі "Маладзечанская восень".**

У іх прынялі ўдзел пяць камандаў, усяго 64 чалавекі. Удзельнікі былі не толькі з Маладзечна, але і з Мінска, Барысава, Бабруйска, Вілейкі, Чысці, Гродна.

Першае агульнакаманднае месца заняў маладзечанскі турыстычны клуб "Пілігрым".

Другое – мінская каманда "Паехалі".

Трэцяе – каманда "Валошкі" Лагойскага раёна.

Пераможцы атрымалі кубак, прызы і дыпломы. Спонсарам прызоў, тэнтаў ад дажджу, выступіла таварыства "Белінтэрспас", дырэктар **Рыгор Латакурскі**.

– Дзякуючы дапамозе "Рэгіянальнай газеты" ўдзельнікі папілі чай з цукрам, – усміхаецца галоўны суддзя спаборніцтваў **Сяргей Бялкоў**.

Грашовыя і салодкія прызы па ўласнай ініцыятыве ўручыў былы ўдзельнік "Пілігрыма" **Міхаіл Шульжыцкі**.

Пераможцамі ў асабовым заліку сталі:

Першае месца. У групе 14-16 гадоў – **Алена Раткевіч** і **Данііл Касьян**, 41-50 год – **Анжэла Сташкевіч**. Пераможца сярод ветэранаў, ад 50 год – **Святлана Маліноўская**.

Другое месца. У групе 14-16 год – **Мікіта Зімнюха**. У групе 18-20 – **Раман Пузырэўскі**. У групе 41-50 – **Аляксей Роўда**.

Трэцяе месца. У групе 14-16 – **Арсень Варабей**. У групе 21-40 – **Юры Дылеўскі**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ФУТБОЛ

## Маладзечна саступіла Оршы на апошняй хвіліне матча

**МАЛАДЗЕЧНА. З лікам 2:1 скончыўся матч 21 тура другой лігі чэмпіянату Беларусі. У нядзелю, 6 кастрычніка, на гарадскім стадыёне ў Оршы адбылася выязная гульня каманды Маладзечна.**

Першы мяч трапіў у вароты маладзечанцаў на 33-й хвіліне матча. На 59-й хвіліне маладзечанцам пашчасціла зраўняць лік. Аўтар гола – **Андрэй Шаблінскі**. Лік становіцца 1:1.

Суддзя да асноўнага часу дадае тры хвіліны. Незадоўга да фінальнага свістка арбітр прызначыў пенальці ў вароты галкіпера каманды Маладзечна. Аршанцы рэалізоўваюць пенальці. Вынік – 2:1.

Футбольны клуб "Маладзечна" застаецца на дзявятым радку турнірнай табліцы. Наперадзе гульня з камандай Кобрына, якая адбудзецца на маладзечанскім гарадскім стадыёне ў нядзелю, 13 кастрычніка.

**Наталля ТУР.**

## "Вілія" прайграла

ВІЛЕЙКА. "Вілія" з Вілейкі 6 кастрычніка ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе гуляла з асноўным канкурэнтам – камандай "Колас" – за перадапошняе месца. У абедзвюх каманд да гэтай сустрэчы было па 10 ачкоў.

Матч праходзіў у Чэрвені. Віляйчане прайгралі гаспадарам з лікам 1:3 і апусціліся на апошняе месца ў турнірнай табліцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Кожнае слова мае вагу

Лес – наша народнае багацце, таму імкненне ведаць хоць прыблізна сапраўдны стан рэчаў тут для неабыякавага чалавека цалкам натуральнае. Замуроўваць слова праўдашукальнік у двукоссі ўсё ж такі лішняе. Адказ лясгаса, дарэчы, таксама не пазбаўлены ціску на пачуцці. Што тычыцца дарог (і не толькі), то разваліць іх і пакінуць у такім стане ў нас стала звычайнай справай, а прывесці іх у належны выгляд чамусьці слабо! Калі казаць пра мемарыял "Боркі", то дарогу да яго насыпалі летам 2012 года (а не ў 2011 г.) Па настойлівай просьбе грамадскасці, "Беларускага фонду міру", а тэму адсутнасці дарогі і абнаўлення мемарыяла падняў менавіта А. Раткевіч. Дарэчы, менавіта А. Раткевіч, калі яшчэ быў дзіцем, дапамагаў будаваць помнік спаленым тут людзям. Ён быў актыўным удзельнікам рэальнага добраўпарадкавання тэрыторыі мемарыяла на суботніку 06.11.2011, дзе нямала папрацавалі жыхары суседняй Сакалоўкі, работнікі лясгаса, Хаценчыцкага сельсавета і іншыя неабыякавыя людзі. Менавіта дзякуючы яго намаганням (фізічным, маральным, арганізатарскім) і стараннем жыхароў Сакалоўкі, бескарыслівым удзелам работнікаў розных арганізацый помнік у Борках набыў цяперашні прыстойны выгляд. Я пішу гэта не для таго, каб А. Раткевіча пахвалілі, а каб, не будучы ўпэўненымі, не кідаліся крыўднымі словамі аб асабістай выгадзе, кар'ерызме, выпінанні. Бо "кожнае слова мае вагу", як мае сэнс і ўжыванне яго ў пэўным кантэксце. Кожны мясцовы жыхар наваколля каля вёскі Боркі сапраўды ведае даваенную дарогу праз вёску, як ведае і тое, што невялікі яе ўчастак, асабліва забруджаны, лесавозы аб'язджаюць бокам, парушаючы мяжу мемарыяла. Помнік – гэта не ўвесь мемарыял, яго мяжы большыя. І на гэтай "новаспечанай дарозе" сапраўды стаяў дом Танковіча, у хляве якога спалілі людзей. Можна гэта назваць прыватнымі выпадкамі, залішняй дэталізацыяй, але такая праўда. А наогул, хочацца, каб усе пытанні вырашаліся без усіх гэтых сварак, перацягвання коўдры на сябе, а сумесна, рэальна, а не для справаздач і галачак, па-гаспадарску. ***Таццяна.***

**ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ**

## Якое пытанне для вас галоўнае ў жыцці?

**36%** Колькі дадуць зарплаты

**21%:** Як захаваць беларускае

**18%:** Колькі піва вып'ю вечарам

**10%:** Як убачыць "часцінку Бога"

**07%:** Як жыць, калі згасне Сонца

**05%:** Ці варта крэміраваць цела

**05%:** Як даведацца пра ўсе адкрыцці Тэслы?

Усяго галасоў 37

**ПАДПІСКА**

# Самыя цікавыя навіны можна прачытаць толькі ў "Рэгіяналцы"!

**МАЛАДЗЕЧНА. Так на маё пытанне аб тым, ці часта маладзечанцы пытаюцца "Рэгіянальную газету", адказала кіяскёр Ларыса, што працуе ў кіёску "Мінаблсаюздруку" ля гарадскога стадыёна.**

– "Рэгіянальную газету" часцей за ўсё пытаюцца па пятніцах і суботах. Некаторыя купляюць яе дзеля праграмы тэлеперадач, а я згодная з вашымі многімі чытачамі ў тым, што самыя цікавыя навіны рэгіёна можна прачытаць толькі ў "Рэгіяналцы"!

Якія яшчэ выданні цікавяць маладзечанцаў, адказвае старшы інструктар аддзела падпіскі паштовага аддзялення №6 **Тамара Скрыпцова.**

– Лідары падпіскі па Маладзечанскім раёне дзве газеты: "Аргументы і факты" і "Камсамольская праўда".

**– А якія выданні выпісваюць радзей?**

– Гэта спецыфічныя выданні па рыбалоўстве ці па радыёэлектроніцы. Адзін чалавек у раёне выпісвае японскія крыжаванкі, я, напрыклад, адзіная, хто выпісвае спецыяльны часопіс па вязанні.

Вельмі дарага выпісваць медыцынскія выданні. Падпіска на паўгоддзе можа каштаваць тры мільёны. Бывае, што ў нас пытаюцца пра англійскія часопісы, але ў Маладзечне падпіску на іх афарміць нельга. Такі часопіс абышоўся б падпісчыку ў 10 мільёнаў на паўгоддзе.

**– Самыя актыўныя падпісчыкі? Хто яны?**

– Вядома, пенсіянеры. Другая катэгорыя – маладыя мамы. Але як крыўдна, што школы і садкі цяпер рэдка выпісваюць карысныя каляровыя часопісы.

**ВАЛОЖЫН. Паштальён, на мой погляд, у вёсцы – гэта самы важны чалавек.**

Таму што ён і добрую навіну прынясе, і раскажа, што робіцца ў вёсках па-суседстве, і пенсію замест банкамата выдасць. З такім чалавекам мы і размаўляем сёння. Знаёмцеся – **Раіса Чараповіч**, паштальёнка Дорскага паштовага аддзялення.

**– Як доўга вы працуеце?**

– З 1992 года, а ў 2011 атрымала пасведчанне "Ветэран працы" .

**– Гэта мара з дзяцінства?**

– Не, марыла быць выхавальніцай. Але так склалася жыццё. Але я ні пра што не шкадую. Я люблю сваю работу.

**– Што самае цяжкае ў прафесіі?**

– Знайсці падыход да кожнага чалавека. Я працую пераважна з пенсіянерамі, таму не толькі даводзіцца выконваць свае прамыя абавязкі, але і выслухаць кожнага, пагаварыць, дапамагчы. І канешне ж, фізічная нагрузка. Летам, зразумела, на ровары, а зімой – усё пешшу. А бывае, што снегу па калена, і мароз – 20 градусаў.

**– А што чытаюць жыхары Дорскага сельсавета?**

– Канешне ж, на першым месцы, наша мясцовая. А "Рэгіянальнай газеты" да нас прыходзіць толькі 2-3 экзэмпляры на тыдзень. І іх забіраюць адразу.

**– Самы лепшы паштальён – ён які?**

– Спагадлівы і чулы. Самыя важныя якасці для працы з людзьмі.

**– Як будзеце адзначыце прафесійнае свята 9 кастрычніка?**

– Спачатку з калегамі пап'ём гарбаты на рабоце, а потым са сваёй сям'ёй адсвяткуем па-дамашняму.

**Дарэчы: калі вы захочаце адаслаць "Рэгіянальную газету" сваякам з Аўстраліі, вам давядзецца заплаціць прыкладна 40 000 рублёў, а ліст для сваякоў са Швецыі і Японіі абыйдзецца ў 19 750 рублёў.**

**Наталля ТУР.**

**ГАРАСКОП (11-17 КАСТРЫЧНІКА)**


**Авен.** Калі вам захочацца абнавіць дамашнюю прастору, захочацца стварыць камфортную атмасферу для ўтульнага адпачынку, то дзейнічайце – вам гарыць зялёнае святло.


**Цялец.** Не прыдзірайцеся па дробязях да сваіх спадарожнікаў жыцця і не спяшайцеся ставіць крыж на вашых адносінах. Хутка ўсё наладзіцца, толькі дайце адзін аднаму час.


**Блізняты.** Калі ў вас дрэнны настрой, нешта не ладзіцца, то паспрабуйце "пераключыць каналы" – перастройцеся на іншую хвалю, і ўсё пачне атрымоўвацца.


**Рак.** Шукайце прычыны для ўсмешкі – і яны абавязкова знойдуцца. Памятайце, што самыя здаровыя і прыгожыя людзі – гэта тыя, якіх нічога не раздражняе.


**Леў.** Ваша самаадчуванне будзе такім, якія эмоцыі вы будзеце адчуваць. Кіраваць настроем складана, але можна, калі памятаць, што ад гэтага залежыць ваша здароўе.


**Дзева**. Гэтыя дні, можа, і не такія ўдачныя, але ўсё ў вашых руках. І калі вам будзе здавацца, што вас ніхто не цэніць, то вазьміце сябе ў рукі і дзейнічайце, як лічыце патрэбным.


**Шалі.** Калі вы хочаце, каб вашы мары збываліся, часцей ствараць ў сваім уяўленні рэальныя карціны: свой дом, сваю кватэру, месца працы, адпачынак, карацей усё, што вам неабходна, і зоркі будуць дапамагаць вам.


**Скарпіён.** Майце на ўвазе: ні ў якім разе нельга лячыць дэпрэсію паходамі па магазінах. Бо гэта не лепшым чынам адаб'ецца на фінансавым стане, ды ў такім настроі вы наўрад ці выберацe штонебудзь вартае.


**Стралец.** Добры час для таго, каб правесці нечаканы эксперымент са сваім гардэробам. Паспрабуйце скамбінаваць рэчы, якія вы ніколі раней не рашаліся надзець разам. Падбярыце да гэтага яркія аксесуары, і вынік здзівіць усіх навакольных.


**Казярог.** Калі не хочаце непажаданай агалоскі – будзьце асцярожныя.


**Вадалей.** Вас чакае перыяд абнаўлення. Вы адчуеце ўзмацненне энергетыкі, настрой будзе аптымістычны.


**Рыбы.** Увасабляйце ў сваё жыццё нешта новае, не бойцеся спантаннасці і непрадказальнасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастычная драма **"Гравітацыя"**, 3D (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, для гледачоў, якім за 16)
10 кастрычніка – 16.30
12 кастрычніка – 14.30, 16.30
13 кастрычніка – 14.00
14 кастрычніка – 19.00
15 кастрычніка – 21.00
16, 17 кастрычніка – 16.30
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў

Ваенная драма **"Сталінград"**, 3 D (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16).
11, 12 кастрычніка – 18.30, 21.00
13 кастрычніка – 16.00, 18.30, 21.00
14 кастрычніка – 21.00
15 кастрычніка – 18.30
16, 17 кастрычніка – 18.30, 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Пабег з планеты Зямля"** (ЗША, Канада)
12, 13 кастрычніка – 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Драма **"Самая п'яная акруга ў свеце"** (ЗША)
11, 12 кастрычніка – 19.00, 21.30
13, 14 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Баявік **"Бяжы"** (ЗША)
11, 12 кастрычніка – 17.30
13 кастрычніка – 17.30, 19.00
15-17 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама **"Рэнуар. Апошняе каханне"** (Францыя)
15-17 кастрычніка – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

**Тэл. : 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ

**"Все будет ХороШОУ!"** (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне). Алег Чэчанеў
12 кастрычніка – у 11.00

**"Казка пра чырвоную стужачку"**. Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
16 кастрычніка – у 11.00 і 12.40

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

**"13"** (камедыя ў 2-х дзеях), Рэй Куні
11 кастрычніка – у 19.00

**"Не такі, як усе"** (камедыя ў 2-х дзеях), Аляксей Слапоўскі
13 кастрычніка – у 17.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях), Сцяпан Лабазёраў
17 кастрычніка – у 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: 76-17-32, 75-24-17. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Маша і Мядзведзь"** (народная казка). У.Швэмбергер
13 кастрычніка – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | 6 | | | | 3 | | |
| 1 | | | | 7 | 3 | | 4 | 9 |
| | | | 4 | | | | 6 | |
| 8 | | | | | 7 | | 9 | 3 |
| | | 9 | | | | 2 | | |
| 2 | 1 | | 9 | | | | | 5 |
| | 8 | | | | 1 | | | |
| 7 | 6 | | 2 | 9 | | | | 1 |
| | | 1 | | | | | 9 | 8 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт



Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е



| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +13, 744, ← 1 | +9 / +13, 751, ← 2 | +10 / +12, 749, ↖ 4 | +10 / +12, 745, ↖ 1 |
| Вільня | +9 / +14, 754, ← 2 | +10 / +14, 760, ← 4 | +10 / +13, 758, ← 4 | +10 / +13, 753, ← 4 |

Тэмпература паветра (мм рт. сл.) Ціск; Воблачнасць ападкі, Хуткасць ветра м/с; Усход, захад на Маладзечне

Усход 7.36 Захад 18.21 Даўжыня дня 10.45

Усход 15.19 Захад 00.25 Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- 14 кастрычніка. Пакровы. "Пакровы пакрываюць траву лістам, ваду – лёдам, а дзяўчат – шлюбным чэпкам". Якія Пакровы будуць па надвор'і, такая будзе і зіма.
- У кастрычніку снег – толькі на грэх.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Непадалёк ад мяжы Беларусі і Польшчы жывуць людзі, якія размаўляюць на "сваёй" мове. Атрымлівaецца такая беларуска-польска-ўкраінская мяшанка. Аднак яны ствараюць свае музычныя гурты, спяваюць народныя песні і такім чынам спрабуюць захаваць сваю адметную гаворку.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці займаецеся вы спортам?



**Дзяніс Дурко, будаўнік:**

– Так. Але я не хаджу для гэтага ў спартзалу. На працы мне дастаткова нагрузкі, каб быць у форме.



**Віталь Кукель, інжынер:**

– З дзяцінства люблю спорт. Напрыклад, цяпер шмат працы, але я ўсе адно знаходжу час паганяць з сябрамі ў футбол.



**Анастасія Барысава, сацыяльны работнік:**

– Я займаюся спортам, шмат рухаюся і люблю танцаваць. Лічу, што менавіта актыўны лад жыцця захоўвае здароўе, дапамагае даўжэй быць маладым і прыгожым.



**Мікалай Хадзінскі, пенсіянер:**

– Калі лічыць працу па гаспадарцы як заняткі спортам, то мне можна прысвоіць майстра. У мяне з раніцы да позняга вечара кіпіць праца, часам забываю паесці. Мой участак – гэта мая спартзала.



**Яўгенія Рышкевіч, бухгалтар:**

– Я хаджу ў басейн і люблю танцаваць. Шмат гуляю з малодшай сястрой. Спорт дапамагае не толькі падтрымліваць сябе ў форме, але і трэніруе вынослівасць, загартоўвае характар.



**Вячаслаў Былінскі, механік:**

– У руху – жыццё. Пад такім дэвізам я і жыву. Мой маленькі сын – гэта персанальны трэнер, які не дасць засумаваць. А любімая жонка непакоіцца за мае здароўе, таму кожныя выхадныя мы ходзім то на фітнес, то ў басейн, то на канькі.



**Анастасія Ралько, студэнтка:**

– Прырода падарыла мне прыгожую постаць. А заняткі спортам і адказ ад шкодных звычак дапамагаюць мне захоўваць яе. Я люблю танцаваць і плаваць, а таксама хадзіць у лазню.

**Падрыхтавала Святлана АЛЬФЕР.**


Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 41 (962) 11.10.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 931. Падпісана ў друк у 10.00 10.09.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.